# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ і САТЫРЫ.



## 1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4
«МАЛАНКА»

№ 5
20 САКАВІКА
1927 г.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.



# Каму што, а Беларусу...

„Пад уплывам Англіі ўзаемаадносіны Польшчы і Літвы паляпшаюцца“... (*З газэт*).




**АНГЛЕЕЦ, ГОДЗЯЧЫ ПОЛЬШЧУ і ЛІТВУ:** — Кіньце, дзеткі, спрачацца за цацку-Вільню, — я вас пагаджу, а табе, Беларусе, пакуль што вось гэтыя кветкі з майго букету.




# Ужо пачынаецца...

...„Эндэцыя“, „Пяст“ і іншыя правіцовыя і дробнамяшчанскія партыі павялі ўсільную кампанію ў Сойме аб зьмене ордынацыі выборчай...

...У Вільні лік полёнофільскіх беларускіх газэтаў павялічваецца...

(*З газэт*).

Сойм — магутная правіца
Пачынае ўжо муліцца...
Узварухнуліся паночкі
Дня няма, а спакой ночкі —
Небясьпека — трэ' старацца,
Тонка, спрытна рыхтавацца
Да вялікіх спраў...

Страшна — выбары падходзяць
Злыя думкі, думку родзяць:
Што то будзе — што чакае?!
Ледзь лявіца „баявая“
Пад той шум нек загадкова
Йшчэ маўчыць — на вус матае
І сказаць нібы гатова:
— Э, вяльможныя паночкі,
Ня сумуйце, мы ня здрадзім,
Як ня здрадзілі ніразу,
І на мель іх зноў пасадзім
Гэтых меншасьцяў — заразу.
Мы-ж таксама патрыёты
Абы злоты, толькі злоты,
Дык дамо ўсяму мы раду.
Жарт! то-ж клопат для Ураду
*Бялорускіх послув* мецi,
Пхаць за краты іх — глядзеці,
Ці-ж ня лепш з такімі знацца,
Што пад нашу ткі старацца
Будуць дудачку скакаць
Ды нам ручкі цалаваць...
— Так.

А тымчасам паціхутку
„Лаўкачы грымяць пабудку, —
Паўлючок да вёсак прэцца,
(Ен вядомы вам, здаецца),
Ладзіць „шопкі“, „камітэты“ —
— У Вільні новыя газэты...
„Еднасьць“ ў Горадне хтосьць склеіў
На чыю-ж то, браткі, шыю
З цёмных норак пруць вужакі?...

Гэй сяляне, небаракі!
Зноў чмуціць вас іх заданьнем;
Прывітаць дзіўным пяяньнем:
„Вы бяздольны, вы разьдзеты“,
Каб „мандацік“ як дастаць
Ды гадкоў прынамся пяць
Адтрымоўваці дыэты,
З вашай працы разьядацца,
Жыць папанску, мець выгоду
Ды над „глупостью“ сьмяяцца
Беларускага народу...

Ну дык вось, браткі, слухайце,
Што „Маланка“ вам парадзіць:
— Свой вы розум толькі майце,
Вас ніхто тагды ня здрадзіць.
Сьмела ганьбаю крэсьлеце
Ашуканцаў, прайдзісьветаў
Ды з пагардаю глядзеце
На кліч здрадніцкіх газэтаў.

Сэрцам чыстым хай адчуе
Кожны з нас, загнаных лёсам,
Хто бароніць, хто пільнуе
Нашых шчыра інтарэсаў.
Ледзь тады зазьзяе, ўзыдзе
Зорка шчасьця, агняцьветаў,
Дык сьмялей-жа, брацьця, пойдзем
Па шляху да сьветлых мэтаў...

**Міхась Васілёк.**

# СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ.

╳ Кажуць, што некаторыя беларускія газэты ў сувязі з частымі конфіскатамі іх, маняцца зьмяшчаць казкі: „аб рыбаку і рыбцы“, „каньку-гарбунку“, „аб дзеду і бабе“ і інш.

╳ Кажуць, што віленская інжэнеры маняцца падаць адносным уладам проект будовы дому пад склад беларускіх сконфіскованых газэтаў, колькасьць якіх належыць лічыць, напэўна, тоннамі.

╳ Кажуць, што ў сувязі з нападамі „партыі эсэраў“ на беларускіх рэдактароў, апошнія будуць належна азброены, а з рэдакцыяў будуць павыкіданы крэслы і заменены іншымі, нягоднымі да бойкі, прадметамі.

╳ Кажуць, што на беларускія коопэратыўна-гандлёвыя курсы ў Вільні прымаюць толькі тых, хто аб „Грамадзе“ ніколі ня чуў, яе ў вочы ня бачыў, а нават ня сьніў.

╳ Кажуць, што адзін з беларускіх сэнатараў приступае да друкаваньня сваіх „мэмуараў“, — старшым дзеля прыкладу і дзеткам — для „нравоученія“.

╳ Кажуць, што звальненьне пяцёх „неблагонадёжных“ настаўнікаў з Віленскай Беларускай Гімназіі вызвана тым, што адзін з гэтых настаўнікаў у часе студнёвых падзеяў пазволіў сабе катэгарычна адмовіцца чытаць „Słowo“ і „Dziennik Wileński“ за іх вядомую брахню.

╳ Кажуць, што беларуска-кітайскі пісьменьнік Ляо-Дзе (не мяшаць з Конфуцыем) маніцца прышчапіць сабе вадабаязьнь, каб пазбавіцца маніі пісаньня апавяданьняў. „На берагох Ян-дзе-кіангу“, „У даліне Гангу“ і іншых надводных рэчаў.

### НЕ ЗАВАЛІЦЦА.

— Скажы, дзядзька, ці праз гэты масток можна прайсьці: ён не заваліцца?

— Ідзі сьмела! Нядаўна п'яны войт ракам поўз і то мост не заваліўся.

*Я. М.*

### АШУКАНЕЦ.

— І вы хочаце аддаць сваю дачку за гэтага шыпа? А вы ведаеце, што ён сядзеў чатыры гады ў крымінале?

— Вось як? А то ашуканец! Мне казаў, што сядзеў усяго два гады.

# Далей едзеш — цішэй будзеш!




**Беларускія паслы і дырэктар Астроўскі:**

— Бывай, Вільня! б. Міністар Грабскі казаў у сваёй прамове, што беларусаў трэба азнаёміць з жыцьцём культурнага захаду і... вось мы едзем!..

## Селянін рассудзіў.

Сустракаюцца два паны, едучыя паркай коняў. Дарога была завеяная, дык паны ня хочуць уступаць дарогу адзін аднаму. Стаяць на месцы, спрачаюцца; а дзеля таго, што панская кроў гарачая, дык ужо за стрэльбы хапаюцца.

Праходзіў каля іх селянін, затрымаўся дый слухае.

— Вось скажы, Даніла,—пытаецца ў яго пан,—хто каму павінен уступіць з дарогі?

— Вядома-ж, — адказвае Даніла,—што дурню заўсёды лепей уступіць.

— Эх ты, дурань! — крычыць адзін, зварочваючы з дарогі.

— Ты сто разоў горшы дурань,— адказвае другі пан, абмінаючы першага.

Каб не Данілава мудрая рада, можа-б і панскія стрэльбы ў рабоце былі...

**К. Гракат.**

### НА МІНУТУ.

Перад сьвятам заўважыў паліцыянт нейкага дзіўнага чалавека, які ад раніцы да познага вечара стаяў перад магазынам з модамі.

— Хто вы такі? — падазронна спытаўся паліцыянт.

— Я спакойны чалавек.

— Дык чаго стаіце цэлы дзень каля магазыну?

— Чакаю жонкі. Зайшла на мінутку па капялюш...

**„Зиз“.**



# Паражні машну, бядак!

Міністэрства унутр. спраў зацьвярдзіла цэньнік для аптэкароў, па якому дазваляецца зарабляць на бутэльках і пробках ад 100 да 500 процантаў.

*(З газэт).*

— Вось, пане аптэкар, цяпер розныя пошасьці і хваробы пайшлі на людзей...

— Нічога! Пан міністар аб людзях дбае, — дазволіў нам браць высокія цэны на ўпакаваньне, каб людзі менш хварэлі.

### І ЁН НЯ ВЕДАЕ.

*Настаўнік*: У якім годзе памёр Францішак Скарына?

— Я гэтак сама ня ведаю, пане настаўнік.

## Адзін — манаткі прадае... Другі на „лялек“ аддае.





Агалаціў я чыста хату, —
Аддаў грошы адвакату, —
Сын ў вастрозе. Шкода сына.
Ён — падмога мне адзіна...

На судзе тым „абаронца“
Гаварыў нешта бяз конца
І памагла-ж слоў тых рэчка,
Як... канаючаму сьвечка.

Восем гадкоў сыну далі...
Мне й пабачыцца ня далі...
Я заплакаў, сын заплакаў
І паплёўся небарака.

А адвакат, узяўшы грошы,
Надзеў футра і калёшы,
Н'ат са мной не разьвітаўся, —
Ў рэстаран, відаць, сьпяшаўся.

Там, ў асобным габінэце —
Ўсе прыемнасьці на сьвеце,
Ўсё за грошы купіць можна:
Ужывай, пане вяльможны!

Не шкадуй мужыцкіх грошай,
Лепш дзяўчыначцы харошай
Тут як можаш дагаджай, —
На тваім полі — ўраджай!..

## Яшчэ вады ня стане.

Прыехаў войт з нейкім урадоўцам у вёску, нейкія пратаколы пісаць. Пішуць, пішуць, пасьля выймуць з партфэля бутэльку з сьпіртам, ды разьвёўшы з вадой п'юць.

— Чаму гэта паны гарэлку з вадой разбаўляюць?— пытае адзін селянін у другога.

— Бо ў мястэчку, мусіць, ужо гарэлкі для іх не хапіла, — адказвае той.

— Вось дзіва! гарэлкі не хапіла! — яшчэ для іх вады ў студні ня хопіць, бо вось-жа здорава жлокчуць!.. Ю Р.

### АДВАЖНАЯ.

*Жонка*: Калі ты яшчэ хоць раз прыдзеш гэтак позна дамоў, дык я ня вытрываю і кінуся ў возера!

*Муж*: Нічога, жартуеш... Там і так шмат гусей плавае.

### НАШЫ ДЗЕЦІ.

— Чаго равеш?
— Бо я ўчора пабіў галоўку.
— Чаму-ж ты ўчора ня плакаў?
— Бо ўчора нікога дома ня было.

## Як у хуткім часе дабіцца шчасьлівай фартуны.

Стыдна ў наш час быць безработным.

Працы цяпер столькі, што хоць бяры адбаўляй.

Калі вы, чытач, безработны і абабілі свае боты, працы шукаючы, дык прыяжджайце ў Вільню — тут праца сама Вас чакае.

Тут ня толькі можаце сабе працу знайсьці, а нават бліскучую кар'еру зрабіць, — залатыя горы здабыць можаце.

Што? дзівіцеся вы, ня верыце?

Дык слухайце:

Калі вы не „грамадзісты“, або наагул ня маеце, популярна кажучы, выразна выражанай „палітычнай фізіяноміі“, а так-сабе орыентуецеся... „куды вецер дуе“, — дык кідайце ўсё і якнайхутчэй прыяжджайце ў Вільню.

Тут вас зробяць найвыдатнейшым дзеячом.

Найвялікшым палітыкам.

Будзеце ўсёй Беларусі тон задаваць.

---

Прыехаўшы ў Вільню, вы павінны ўраз-жа навязаць контакт (патутэйшаму «стасункі») з „быўшымі людзьмі“, — іх тут у кожнай карчме знаюць. Будуць гэта розныя „балаховцы“, „аляксюковцы“, „актывісты“, з „Тымчасовэй Рады“ — нацыяналістыя і іншыя з „Грамадзянскага Сабраньня“ — чмуцістыя.

Ідзеце да іх і скажэце, што вы хочаце „беларускім дзеячом быць“, — хочаце палітыкай займацца. Яны вам скажуць, як і што, і нават адваката дармовага дацуць. Той за вас у момант усё зробіць, вам нават і пальцам нідзе крануць ня прыдзецца.

Зараз будуць пушчаны ў ход усе сакрэтныя пружыны; будзе адпаведна прыгатаваны грунт для вашай прышлай кар'еры.

Спачатку вам прыдзецца злажыць належны „мэморыял“ да адпаведнай установы (назваць не адважваюся, бо аж дрыжакі мяне бяруць...).

У мэморыяле трэба напісаць, што вы аб'яўляеце вайну „Грамадзе“ і будзеце з ёю змагацца ўсімі магчымымі срэдствамі, аж пакуль самы найапошні „грамадзісты“ не прынясець вам накленчках свайго партыйнага білету.

Далей: што вы ўвесь беларускі рух апануеце і захопіце ў свае рукі. Што будзеце кіраваць гэтым „рухам“ аж да тэй пары, пакуль уся Беларусь ад Нёмна да Уралу і ад Дзісны да Чорнага Мора не апыніцца пад вашай камандай.

У мэморыяле сваім вы павінны даказваць, што вы канечна шляхоцкага роду, што дзед ваш налажыў галавой у польскім паўстаньні, а пра-пра-прадзед ваш дастаў залатую шаблю ад гістарычнага Заглобы за тое, што схапіў у няволю самога Багдана Хмельніцкага.

І гэтак далей, і г. д...

Напісаўшы ў гэткім духу мэморыял, вы павінны чакаць тыдзень-два. За гэты час аб вас зьбяруць опінію, парадзяцца, з кім належыць, пасьля пазавуць вас у кабінэт і запрапануюць выдаваць „беларускую“ газэту.

Вы будзеце адмаўляцца, казаць, што ніколі газэты не выдавалі і ня ведаеце, з чаго і як яна робіцца. Вас пераканаюць, што вам самому нічога рабіць ня прыдзецца, што за вас усё z góry będzie napisane, а калі ня ўмееце самі пералажыць, дык ёсьць такія мастакі, што з гэтага жывуць, што перакладаньнем з чужога на беларускае займаюцца.

Вы яшчэ будзеце сьціскаць плячмі, разводзіць рукамі, няведаючы, што рабіць, але як вам пакажуць адну — другую пачку новенькіх «*сто-*

## Ізноў сконфіскавалі „Маланку“.

14-га сакавіка с. г. па загаду Камісара Ураду сконфіскаваны № 4 час. „Маланка“ за зьмешчаныя там: верш Я. Башкіра — „Салдацкая“ і рысунак Ю. Монвіда — „У вялікім посьце“. Цікава адзначыць, што рысунак гэты ў мінулым годзе быў зьмешчаны ў № 3 „Маланкі“ і гэтак сама быў сконфіскованы па загаду Камісара Ураду. Аднак, з даручанага нашаму рэдактару акту абвінавачаньня відаць, што п. Прокурор конфіскату гэтага рысунку не зацьвердзіў, што дало сьмеласьць рэдактару нанова зьмесьціць гэты рысунак у гэтым годзе і... мець новы судовы працэс.

У сувязі з гэтай конфіскатай абвінавачваюць нашага рэдактара з арт. 74 і 129 Карн. Кодэксу.

---

Наступны нумар (6) выйдзе ў пятніцу 1-га красавіка.

## Нашы дзяўчаты.

Як мой сусед (Тамаш завецца),
Дык бадай з усіх канцоў,
Хоць двох і то ці сабярэцца
Вялікіх гэткіх мудрацоў.

Вось дык язык! А розум маець!
На пракӑнанньне хай хто з вас
У яго што-небудзь запытае, —
У момант дасьць на ўсё адказ!

*

Сустрэў яго аднойч' ля хаты
І запытаўся пры людзёх,
Скажы: — „нашто нашы дзяўчаты
Гадзіньнік носяць на грудзёх“?

(І што-ж сказаў, як вам здаецца?),
А вось, што ўчуў ад Тамаша:
— Усё-ж хоць што-небудзь ды б'ецца,
Там, дзе ня б'ецца „ні шыша“!..

### НАПАЛОХАНЫ.

— Ты чаму халодную капусту ясі? Дроў ня маеш, ці што?

— Баюся, бачыш, гарачую есьці, каб не цягалі мяне за „гарачы ўчынак“.

## Нашы бабы.

У нас зазвычай так бываець:
Калі вясельле Пакравом,
Дык кожна баба добра знаець,
Што будуць хрэзьбіны Пятром.

А хто Пятром у сваты ходзіць
І гэта ведаюць у нас,
Што на Благавешчаніе знойдзіць
Дачку ці сына ён якраз.

І наадварот, скажы радзіўся
Калі пяршачка ці першак,
А хочаш знаць, калі жаніўся,
Дык бабы скажуць знак у знак!

Калі бываць якой камэце,
Так астраному не згадаць,
Як любой нашай кабеце
Усіх радзін за год ня знаць.

Шкада, што нет цяпер Ньютона
А каб нябожчык цяпер жыў, —
Дык нешта больш свайго закона
У нашых бабак ён адкрыў!..

**Башкір.**

### НАШЫ ЖАБРАКІ.

*Першы жабрак*: Вось пагана быць глуха-нямым: усё чуеш, а нічога ня можаш сказаць..

*Другі жабрак*: Яшчэ горай быць сьляпым: на ўсё ўзірайся, заплюшч ўшы вочы.

---

*влотувэк*», дык вы ў момант зробіцеся пакорны, як цяля.

Значыць, з гэтага дня вы станецеся выдаўцом „беларускае“ газэты. Штат рэдакцыі вы набярэце з «быўшых людзей». Сыпнеце грашмі направа і лева і... газэта, як па чароўнаму загаду, — ёсьць.

Назоў газэце можаце даць, які толькі ўздумаеце, але найлепш даць чыста беларускі, нацыянальны, бо, бачыце, ёсьць ужо такія газэты, што з беларускага пачынаюцца, напр.: „Беларускае Слова“, „Беларуская Хата“, ну хай і ваша газэта неяк завецца „Беларускі... Беларускае... Беларуская“... ну хай будзе: „*Беларуская Згода*“. Згода—гэта зн., што вы згаджаецеся зьмяшчаць у сваёй часопісі ўсё тое, што вам загадаюць.

Перш, пакуль надрукуецца ваша газэта, вам трэба паклапаціцца аб тым, скуль узяць адрэсы, — каму сваю газэту рассылаць. Але аб гэтым шмат думаць ня прыдзецца, бо ёсьць такія «майстры», што з-пад замка ў чужой рэдакцыі дастануць адрэсы і вам дадуць (разумеецца, за „срэбранькі“). А калі вам гэтага яшчэ мала і вы захочаце павялічыць тыраж свае газэты, дык апублікуйце ў газэце, што кожны, хто захоча дарма адтрымліваць і чытаць вашу газэту, хай прышле свой адрэс, а рэдакцыя будзе высылаць яму сваю газэту на «пробу» аж праз пяць гадоў. Калі, аднак, гэта не паможа, дык дайце абвестку, што ўсім, хто прышле свой адрэс, будзеце высылаць газэту дарма з дармовымі прэміямі: пуд жыта, літр гарэлкі, або залаты гадзіньнік і... тагды пераканаецеся, што гэт зв. „падпісчыкаў“ на вашу газэту значна прыбудзе.

Прэміяў, разумеецца, вы можаце не даваць, бо і які-б з вас быў-бы палітык, калі-б даваў усё тое, што дакляруе. Але газэту сваю высылайце акуратна.

А калі вам пачнуць зварочваць «падпісчыкі» вашу газэту з надпісам: „прашу не высылаць мне болей гэтага *пі ьмідла*“, — вы не абіжайцеся, а шлеце далей, як і слалі ім сваю газэту.

Добры палітык павінен з гары быць прыгатаваны да розных няприемнасьцяў і... няхай сабе страшаць вас судом, ці паліцыяй, а вы сабе рабеце сваё: шлеце ласкава, як і слалі, сваю газэту.

Аднак, вы не павінны абмежавацца толькі выдаваньнем газэты, вас яшчэ чакае вялікая культурнаасьветная праца: залажыць вы павінны «Беларускую Хатку», Клюб, або проста „Grę św.etlno-kolorową“, ну... і рабіць сабе монэту.

Палітыка—грошы любе!

Калі-б вас злавілі, знайшоўшы ў вашым «лёго» фальшывыя карты, — ня прыймайце гэтага глыбока да сэрца, а пастарайцеся зрабіць гэтак, каб на другі раз вас з фальшывым білетам не злавілі.

Палітыка—спрыт любе!

Гэтак, працуючы для Бацькаўшчыны, можаце праз некалькі месяцаў купіць сабе домік у Вільні, пару аўтабусаў, або проста мэблі ў кватэру.

А як прыдуць выбары, можаце стварыць новую партыю і выставіць сваю кандыдатуру на пасла.

Але, здаецца, гэта ня вельмі выгадны інтэрас, бо можаце правваліцца. Цяпер, бачыце, мала дурных на вёсцы...

Канец свае лятуценьні аб пасольскім мандаце. Цяпер сяляне ня будуць больш выбіраць Аўсянікаў, Багдановічаў, Назарэўскіх...

Лепш „круці Гаўрыла“ ў лёто, ці рулетку!

**Я. Калупацкі.**



## Пакове Послове!

З болем сэрца і са сьлязьмі на вачох (голас з лева: кракадылявымі!) я, як прадстаўнік „Obozu Wielkiej Polski“, павінен ад'значыць з гэтай высокай трыбуны, што ўсе нараканьні на нас, як у краі, гэтак і за граніцай ёсьць—інтрыгай бальшавіцка-нямецка-кітайскага саюзу.

Наракаюць на нашу палітыку на „Крэсах“. Кажуць, што мы не даем „нацыянальным меншасьцям“ належных правоў. Ня верце! гэта бальшавіцкая інтрыга. Нашы міністры, ваяводы, старосты ночы ня сьпяць, а ўсё пра тое думаюць, як-бы ашчасьлівіць беларусаў і украінцаў. Наша паліцыя, як дзень, так ноч пільнуе, каб нават волас ня спаў з галавы селяніна-беларуса. І вось за ўсю нашу дбаласьць аб іх мы маем толькі адны нараканьні і „Грамаду“.

Наракаюць на нас, што мы не даем зямлі сялянам, а даём асаднікам,—гэта праўда. Але-ж гэта якраз і ёсьць доказам нашай апекі, нашай дбаласьці аб лёс сялянства. Кожнаму-ж хіба вядома, што праца на зямлі, гэта—цяжкая, катаржная праца, дык мы ня хочам, каб беларускія сяляне гэтак цяжка працавалі, хай лепш за іх працуюць нашы асаднікі і кормяць хлебам беларусаў.

Наракаюць на нас, што мы не даём беларускай школы,—і гэта праўда. Але навука—гэта таксама цяжкая праца, і вось ня хочучы, каб сялянскія дзеці цяжка працавалі, ламаючы галовы над кніжкамі, мы пакуль што не адчыняем беларускіх школаў, бо разгаварыцца з бацькамі пабеларуску дзіця патрапіць і бяз школы, а каб беларусы маглі разгаварыцца з панамі і з паліцыянтамі ім патрэбна не беларуская, а польская пачатковая школа і такая ёсьць амаль ня ў кожнай вёсцы... (Галасы з права: брава! брава!)

Дык вось хай ведаюць усе, што ўсе тыя нараканьні, аб якіх крычаць у нас тут у краі і пішуць у загранічных газэтах, гэта ўсё—хлусьня, або бальшавіцка-нямецкая інтрыга.

Дабрадзействы нашы для «меншасьцяў» ня маюць граніц!

*Падслухала:*

**„Маланка“.**

## Горадзенскае здарэньне

Абрыдла ўжо пісаць пра віленскія здарэньні.

Дый трудна абысьці свой родны куток, свой мілы Горадзен, даўшы мне калісь гэтульки сьветлых юнацкіх дзён, натхненьняў, перажываньняў.

А тут яшчэ зямляк, прыехаўшы адтуль, забягае да мяне:

— Здароў, *братко*! — вітае роднаю провінцыяльнаю гаворкаю. — Што рабіць? З кім працаваць? Пачаўся і ў нас нейкі грамадзкі рух... Дзеячы наяжджаюць, прапануюць нешта рабіць...

Я прапаную земляку папіросу, а той усё, як з мяшка, сыпле далей:

— Разумееш? Паўлюкевіч, насьцягаў людзей з рынку, залажыў нейкі свой сэкрэтарыят. Залажыў гэта ён у чацьвер, якраз пасьля дожджыку, а назаўтра ў пятніцу гэты сэкрэтарыят ужо пастанавіў сам сябе зьліквідаваць. Бо бачыш: Стась адсюль з Вільні пад'ехаў, нейкую „Еднасьць“ залажыў. І вось гэта „Еднасьць“ гэтак з Паўлюкевічавай „радай“ пачала ў нас рэпіцца, што нічога ўжо й не разьбярэш. Аднаго дня неяк на горадзенскім вакзале Паўлюкевіч разам з Стасем высядае з цягніка, але з розных вагонаў.

Спацыруюць па пэроне, коса адзін на аднаго пазіраюць.

— Odjazd! — гукнуў кандуктар. Нашыя пасажыры адзін у адзін вагон, а другі ў другі —

Шмыгіць!...

Толькі глядзімо мы, гэта, горадзенцы — аж цягнік павёз не абодвых;

Аднаго толькі Паўлюкевіча.

А Стась саскочыў, як відаць, з другога боку цягніка і стаіць на лініі.

Усьміхаецца.

У той-жа вечар з Беластоку надышла да аднаго з нашых земляко̄ў дэпэша. Гэтага хлопца Паўлюкевіч яшчэ сваім чалавечкам лічыў.

„Заўтра а трэцяй гадзіне сустрачайце на вакзале. *Понимаете?*“

Гэтак было напісана ў беластоцкай дэпэшы.

Прыехаў „прэзэс“ з Беластоку а трэцяй, а тут а ніводная душа яго не сустрачае.

Ён да старасты:

—*Понимаете? Понимаете?* Стась маіх людзей да сябе перацягвае. Гэта-ж *безобразіе*, пане староста!

Як мне расказваў сам староста, ён адказаў вечнаму прэзэсу розных „тымчасовых“ хатак надта проста:

— Ну, што-ж! Што я тут магу Вам парадзіць, пане Паўлюкевіч? Я-ж не магу вам сілаю людзей назганяць...

—Дык што рабіць?—дапытваўся ў мяне зьбянтэжаны зямляк.

Але што я мог яму парадзіць?

— Прайшлі залатыя дні Аранжуэца, — адказваю земляку, — гэта ясна, але і людзі там у нашым родным месьце! Марыянэткі нейкія, ці што? Вы-ж самі людзі дарослыя, якое мне дзела вас вучыць? А за матар'ял для фэльетону з роднага кутка шчыра дзякую.

І, праўду кажучы, выручыў зямляк. Бо й сам ня ведаю, што гэтым разам напісаў-бы, каб ня гэтае горадзенскае здарэньне.

**Звончык.**

## НЯ ВЕЛЬМІ СЬПЯШАЙСЯ.

Адна жонка за ўсё сваё жыцьцё вельмі далася ў знакі мужу. Калі ён ляжаў ужо на сьмяротным ложку, падыйшла да яго жонка і кажа:

— Адходзіш ужо на той сьвет, а мяне пакідаеш у горы, але вер мне, — я хутка пайду за табой!..

А на гэта ёй муж:

— Прашу цябе, дарагая, ня вельмі сьпяшайся.

## ПАЧЦІВЫ ЧАЛАВЕК.

*Муж.* — Яшчэ апошні раз табе кажу, што на развод з табой ніколі не згаджуся.

*Жонка*: -- Чаму?

*Муж*:— Не магу пазволіць, каб зрабіла нешчасьлівым другога мужчыну.

## НАШЫ ДЗЯЎЧАТЫ.

Ён: Пайдзем, мая дарагая, да парку, за гадзінку вярнёмся!

Яна: А абяцаеш мне, што ня будзеш мяне цалаваць?

Ён: Гм... але, абяцаю...

Яна: Ну, дык лепш я пайду з Янкам, ён прынамсі нічога падобнага не абяцае!..

**„Зиз“.**

# Народны гумар.

### КАВАЛЬ і ПОП.

Аднойчы гасьціў поп у каваля і давай хваліць рамясло каваля, кажучы:

— Вось няма лепшага жыцьця, як каваля, бо каваль: „стук – грак, дык — давай пятак“.

А каваль папу адказвае:

— Эгэ, бацюшка, ваша рамясло лепшае, бо пакуль я „стук—грак“, дык поп: „та-ра-ра, та-ра-ра, дык — давай паўтара“.

*Дзераза.*

### ВУЧОНАЯ.

— Кажуць, што нашага солтыса дачка вельмі вучоная?

— А як-жа, ого, як вучоная! У „пана пшодовніка“ пачатковую навуку адтрымала; пасьля хадзіла ўначы на курсы да валаснога пісара; канчала сярэднюю навуку ў асадніка Прайдзі-Сьвета, а цяпер, дзеля вышэйшай адукацыі ходзіць на „рандкі“ да пана войта (жанатага чалавека).

*Я. М.*

### НЕ ДАВЯРАЕ.

Паляк у Амэрыцы хваліцца нэгру, што ў Польшчы ніколі сонца не заходзе, а заўсёды бывае ясны дзень.

А на гэта нэгр адказвае:

— Пэўне вам Бог не давярае, калі баіцца пакінуць вас у цемнаце.

### РАЗГАВАРЫЛІСЯ.

Селянін Клін быў глухаваты і чуў добра тагды, як хто яму крычыць над самым вухам.

Аднойчы капаў ён гліну. Падыйшоў да яго сусед і вітае яго:

— Дзень добры, Кліну!
— Але, але — капаю гліну.
— Што ты, Клін; ужо аглох?
— Сам капаю, а ня ўдвох.
— Ці ня бачыў мае казы?
— Накапаў ужо тры вазы.
— Чаму ты стаў не дачуваць?
— Пайду да хаты начаваць.
— Пытаюся: ці даўно ты стаў ня чуць?
— Бывай, суседзе, здароў будзь!..

*Козуб.*

# Украінскі гумар.

### З ЖАНОЧАГА РУХУ.

На днях адбылася ў Тарнопалі справа сябровак „Саюзу Украінак“ за зьнявагу. *(З газэт).*



**Жанчына з найніжэйшаю асьветай перад судом.**

— Прашу яснага суду, яна на мне сказала вось як...

**Кабета з найвышэйшаю асьветай перад судом.**

— Пане судзьдзя! Яна мне сказала... **„Зиз“.**

# З каталёгу беларускіх кніжак.

**„Prosty sposab stacca ŭ karotkim časie hramatnym.** — падручнік для карэктара «Сялянскай Нівы“.

**„Дзьве Душы“** — апавяданьне з жыцьця „беларускага“ пасла Аўсянага, які меў дзьве душы: адну да выбараў, а другую пасьля выбараў.

**„Тоўстае палена“** — сучасная повесьць з партрэтам прэзэса „Нацыянальнай Рады“ — Павлюкевіча.

**„На ростані“** — зборнік вершаў з жыцьця беларускага настаўніцтва, скончыўшага кракаўскія «беларускія» курсы.

**„Ня ўсе-ж разам ягамосьці“** — кніжка для віленскіх беларускіх лаціністых.

**„У дому лепей“** — успаміны палітычнага вязьня.

**„Вялікая Шышка“**, альбо **„Што мастак думае сам аб сабе?“** — запіскі нэрвовага чалавека.

**„Першыя крокі“** — справаздача аб паездцы Валэйшы да Горадна.

**„Што такое простая і што такое мудрэйшая гаворка“** — лекцыя, чытаная новасьпечаным доктарам з Прагі ў Вільні.

**„Раскіданае гняздо“** — сэрыя фатаграфіяў з рэд. „Narodnaha Zwonu“ пасьля рэвізіі.

**„Шчасьлівы муж“** — агітацыйная брашура для кавалераў.

**„Птушка шчасьця“** — падручнік для аматараў „сьветльно-колеровэй гры“.

**„Дрыгва“** — драматычны эксіз з жыцьця віленскіх эс-эраў.

**„Залёты“** — мэмуары мастака (Перш мела называцца: „Хоць стары, але—яры!“).

**„Дзіцячыя гульні“** — падручнік для студэнскіх вечарынаў, апрацаваны віленскім старшэйшым грамадзянствам.

### НЯ БЫЛО ДУРНЕЙШАЙ.

Муж вярнуўся позна да хаты. Жонка пачала дакараць яму дый распытваца, дзе быў. Муж выкручваўся, як умеў. Але жонка не паверыла яму, кажучы:

— Мяне не ашукаеш! — Трэба было жаніцца з дурнейшай...

— Калі ня мог знайсьці дурнейшай — спакойна адказаў муж.

**Я. М.**

### ПАМІЖ ПАНАМІ.

— Сабака — гэта вельмі інтэлігэнтнае стварэньне. Бывае, што сабака часам разумнейшы за свайго пана.

— Але, але, я гэтак сама меў гэткага сабаку.

# Як беларускія паслы і іх сям'і шукаюць сабе кватэраў.



**ПАСЬЛІХА:**
Бліжэй да „Галяў“.




**СЫНОК ПАСЛА:**
Бліжэй да Беларускай Гімназіі.



**ПАСОЛ:**
Бліжэй да... „Лукішак“.

## НАША ПОШТА.

**А. Навіцкі.** Хоць Вы і пішаце, што верш свой: „поп і грэшнік“ пачалі ў 1923, а кончылі ў 1926 годзе, але трэба яшчэ з дзесятак гадоў, каб давясьці яго да ладу.

**Зязюля.** „Сон Міколы“ добрая рэч, але Камісар Ураду за яе па галоўцы не пагладзець.

**Кіз-Зік.** „Маланка“ і гэтакіх няпрыстойных апавяданьняў, як Ваш „Чорт“, не зьмяшчае.

**Лявон Драч.** Не вязець Вам з Вашымі творамі. Перарабляць старыя байкі на вершы і без Вас умеем. Апавяданьне „Адбіў атаку“ слаба апрацована, але думка добрая.

**А. К—віч.** Ня верым у тое, што п'яных чэрці водзяць, бо цяпер гэтым займаецца паліцыя. Верш слабы.

**Г. Дзежка.** Спачуваем Вам, але верш „Ясюкова бяда“ для „Маланкі“ не падходзіць і наагул апавяданьні аб чарцях, ведзьмарох вобаратнях аджылі свой век.

**Міхальчук.** Не чакаючы пакуль Камісар Ураду сконфіскуе „Маланку“ за Вашы вершы, мы іх „на векі вечныя“ апусьцілі ў кошык.

**Вясковы.** Верш добры, але пакуль што друкаваць ня можам. Можа летам зьмесьцім яго ў асобным зборніку.

## З бальшавіцкага гумару.

У м. Буе ганаровую двохгадовую камсамолку Розу Панікаву выключылі з камсамолу за тое, што яна. . не хадзіла на сходы.



— Розачка! Ідзі кашку есьці.
— Якая там кашка! У мяне сёньня ў камсамоле даклад і ў аддзеле мясцовай гаспадаркі рэвізія!

*„Сатирикон“.*



Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч.** Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.

## Прыймаецца падпіска на найлепшую гумарыстычную часопісь

# „МАЛАНКА“

Выходзіць два разы ў месяц.

У „МАЛАНЦЫ“ супрацоўнічаюць найлепшыя літэратурныя і мастацкія сілы Заходняй Беларусі.

У „МАЛАНЦЫ“ зьмяшчаюцца найцікавейшыя, найсьмяшнейшыя жарты, карыкатуры, вершы, сатыры.

„МАЛАНКА“ друкуецца на добрай паперы з вялікай колькасьцяй рысункаў.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**
На год—8 зл., на паўгода—4 зл., на тры месяцы—2 зл.
За граніцу на год—2 даляры і на паўгода—1 даляр.

Рэдакцыя „МАЛАНКА“, ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул. № 4.

ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.